БЕЛАРУСКІ КАЛЕГІЮМ

Беларускі калегіум

# HOMO HISTORICUS 2016

## Гадавік антрапалагічнай гісторыі

Пад рэдакцыяй
доктара гістарычных навук Аляксандра Смаленчука

ISSN 2424-5216
ISSN 2424-5224 (Online)

Рэдактар
доктар гістарычных навук Аляксандр Смалянчук

Рэцэнзенты:
доктар гістарычных навук Захар Шыбека, Універсітэт у Тэль-Авіве;
доктар Рымантас Мікніс, Інстытут гісторыі Літвы (Вільня);
доктар гістарычных навук Аляксандр Краўцэвіч, Варшаўскі ўніверсітэт;
доктар хабілітаваны Ганна Энгелькінг, Інстытут славістыкі
Польскай акадэміі навук (Варшава)

**Homo Historicus 2016.** Гадавік антрапалагічнай гісторыі / пад. рэд. Аляксандра Смаленчука. – Вільня: Беларускі калегіум, 2016. – 222 с.

*Homo Historicus 2016* працягвае традыцыі трох першых тамоў (2008, 2009 і 2012 гг.) з іх арыентацыяй на пашырэнне антрапалагічнага стылю мыслення ў аналізе мінулага. Большасць апублікаваных матэрыялаў датычыць феномену памяці ў самым шырокім яго разуменні.

ISSN 2424-5216
ISSN 2424-5224 (Online)

# АРХІВІСТЫ *VERSUS* ГІСТОРЫКІ Ў КАНСТРУЯВАННІ АРХІВАЎ І ПАМЯЦІ

***Вольга Іванова***

*канд. гіст. навук (Менск)*

***Summary***

The article is devoted to the presentation and analysis of contemporary forms of archiving, as well as the role of archivists and historians in the process. Modern, often stereotyped view of historians about the archives leads to some misunderstandings with the archivists. However, the modern historiographical and archival concepts and information development put historians and archivists "on the same side" in the struggle for the memory and the national identity. The contemporary archivist has to solve a whole range of problems, including the conscious design of electronic and online archives and the development of advanced analysis techniques of electronic documents. Historian should provide the archivist with feedback on the elimination of the gaps in acquisition of archives and work with archival documents.

"Архівіст мусіць бачыць у карыстальніку ворага, няўдачніка, гультая, бо не ходзіць на працу, а таксама патэнцыяльнага злодзея [ … ]. У выпадку, калі карыстальнік замаўляе справы, архівіст павінен абавязкова паведаміць, што нічога там знайсці не атрымаецца. Сказаць гэта трэба некалькі разоў [ … ]. І увогуле, архіў – гэта не якая-небудзь навуковая інстытуцыя, гэта дзяржаўная ўстанова!!!"

*Krzysztof Kopiński.*
*List do Umberta Eco… (2010)*

Паняцці “архіў”, “архіўная праца” і “архіўная крыніца” сталі неад’емнай часткай (атрыбутам) вобраза, арэолу прафесійнага гісторыка, гэткага Індыяны Джонса, які вышуквае ў архіве напаўгнілыя дакументы.

*Bialiauski A., Zacharkiewicz S., Prudnikow A.*
*Heurystyczna rola archiwum… (2014)*

У эпіграф адмыслова вынесены цытаты з тэкстаў, прысвечаных рэфлексіі і самарэфлексіі архівістаў і гісторыкаў. Жартаўліва і сур’ёзна ў іх не толькі ствараюцца вобразы адмыслоўцаў, што маюць дачыненне да архіваў, але і выяўляецца цэлы пласт праблемных аспектаў, звязаных з гэтымі ўзаемадачыненнямі. Польскі архівазнаўца Крыштаф Капіньскі выклаў іх у форме адказу на нататкі Умберта Эка “Як арганізаваць публічную бібліятэку”[1], пералічыўшы ўсе цяжкасці, якія даводзіцца пераадольваць карыстальніку архіва. Для напісання такога “ліста” аўтару спатрэбілася шмат мужнасці, і не толькі таму, што адрасаваны ён сусветна вядомаму гісторыку і пісьменніку. Існуе небяспека, што калегі-архівісты могуць не зразумець іроніі, бо не заўсёды гатовыя да самакрытыкі і самаацэнкі. Другі выкарыстаны ў эпіграфе тэкст – гэта спроба антрапалагічнай ацэнкі ўзаемадачыненняў гісторыкаў з архівамі[2]. Тут створаны вобраз і пазначаныя праблемы, якія вельмі цяжка выявіць і адлюстраваць іншымі метадамі. Я асабіста вельмі ўдзячная іх аўтарам, якія паказалі, што архівазнаўства ўжо дарасло да ўзроўню самарэфлексіі.

Цяпер можна больш падрабязна паразважаць над галоўнымі “прэтэнзіямі” абодвух бакоў. Найбольш значная з боку гісторыкаў – гэта сцверджанне аб недаступнасці архіваў. У мяне, як у архівіста, яно выклікае неразуменне. *Што значыць недаступныя? Засакрэчаныя? Там складана працаваць? Гісторыкі не ведаюць, дзе шукаць, і шукаюць там, дзе гэтага няма? А можа, у беларускіх архівах немагчыма знайсці тое, што патрэбна сучаснаму гісторыку?*

Калі першае, то мушу адзначыць, што ў дзяржаўных архівах Беларусі на сакрэтным захоўванні знаходзіцца менш за 0,5 % дакументаў Нацыянальнага архіўнага фонду Рэспублікі Беларусь (далей НАФ)[3]. Гэта параўнальна з адсоткавым значэннем аналагічных дакументаў, напрыклад, ва Украіне[4] і іншых краінах свету. Іншая справа, што пэўная частка дакументаў па гісторыі і культуры Беларусі захоўваецца ў ведамасных архівах Міністэрства ўнутраных спраў і Камітэта дзяржаўнай бяспекі. Яны маюць права сталага захоўвання дакументаў, што не ўваходзяць у склад НАФ[5]. Такая вось спадчына савецкіх часоў...

Відавочна, што “закрытасць” архіваў не залежыць толькі ад архівістаў. Яна абумоўленая асаблівасцямі палітычнай сістэмы Беларусі, а таксама ўспры-

няццем грамадствам і дзяржавай архіваў як “арсеналаў улады”[6]. Адпаведна, у дзяржаўныя архівы трапляюць у асноўным дакументы, якія адлюстроўваюць існую дзяржаўную сістэму. Наколькі яны прыдадуцца гісторыкам, што займаюцца, напрыклад, гісторыяй штодзённасці, пытанне амаль рытарычнае.

У 2006 г. Дзяржаўная архіўная служба Беларусі перайшла з падпарадкавання непасрэдна Савета міністраў у падпарадкаванне Міністэрства юстыцыі, і статус архівістыкі быў значна паніжаны. Апошняя рэдакцыя архіўнага закона ў 2011 г. стваралася ў асноўным юрыстамі амаль без удзелу архівістаў. Адпаведна, архівісты дзяржаўных архіваў часта адчуваюць сябе не навуковымі супрацоўнікамі, не працаўнікамі сферы культуры, а дзяржаўнымі служачымі, мала скіраванымі на знешнюю працу з карыстальнікамі. У некаторых дзяржаўных архівах няма нават адмысловай чытальнай залы, а архівісты займаюцца ў асноўным камплектаваннем, апрацоўкай дакументаў і выкананнем бясконцых нарматываў. Нядзіўна, што часам даследчык у архіве выглядае нейкай недарэчнай асобай, якая толькі перашкаджае працаваць. Пра стварэнне зручных умоваў працы для даследчыкаў у чытальнай зале, не кажучы ўжо пра тое, каб захоўваць у архівах тое, што найбольш адпавядае патрэбам гісторыка, гаворка, як правіла, не ідзе. Гэтая “закрытасць” даступных і адкрытых (згодна з заканадаўствам) архіваў сапраўды існуе.

У Беларусі сёння дзейнічаюць 6 рэспубліканскіх, 9 абласных і 16 занальных архіваў, створаных у савецкі час. Беларускія архівісты мелі магчымасць рэалізацыі ўласных праектаў толькі ў 1920-я гг. Ужо ў наступным дзесяцігоддзі архіўная сістэма стала адным з механізмаў падпарадкавання чалавека дзяржаве[7].

У 1920-я гг. у Беларусі з’явіліся два новыя віды архіваў – гістарычны і найноўшай гісторыі, а менавіта Цэнтральны дзяржаўны архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва (ЦДАКР). У гэты час яшчэ ішлі дыскусіі аб вяртанні Літоўскай метрыкі, хаця ўжо было зразумела, што тут яна захоўвацца не будзе. Па-за межамі тагачаснай БССР дзейнічаў Віленскі цэнтральны архіў старажытных актаў, ствараліся калекцыі Беларускага музея імя Івана Луцкевіча, захоўваўся архіў БНР, папаўняўся архіў Радзівілаў у Нясвіжы. Усе гэтыя зборы беларусы пасля “ўз’яднання” 1939 г. страцілі поўнасцю ці часткова, як і значную частку іншых старажытных дакументаў. Найбольш каштоўнае апынулася ў цэнтральных сховішчах СССР ці загінула.

Развіццё розных відаў дакументавання, а таксама чарговая рэарганізацыя сістэмы архіўнага захоўвання на саюзным узроўні выклікалі неабходнасць стварэння ў 1941 г. яшчэ аднаго спецыялізаванага сховішча – архіва кінафотафонадакументаў. Пэўную ініцыятыву беларускім архівістам удалося праявіць

толькі пры стварэнні архіва літаратуры і мастацтва ў 1960 г. Менавіта ў Беларусі пачаў працу першы, пасля расійскага, архіў такога тыпу. Завяршылася стварэнне беларускай архіўнай сістэмы з'яўленнем архіва навукова-тэхнічнай дакументацыі ў 1967 г.

Адзначаныя асаблівасці даюць магчымасць зразумець тыя асноўныя накірункі грамадскага і культурнага жыцця, якія знайшлі адлюстраванне ў архіўных дакументах. Гісторыя штодзённасці і гісторыя "простага" чалавека, нацыянальныя і рэлігійныя меншасці, нонканфармізм, рэлігійнае жыццё ды інш. знайшлі тут толькі нязначны адбітак. Як правіла, даследуючы падобныя тэмы, гісторыкі сутыкаюцца з недахопам крыніц ці неабходнасцю стварэння новых метадаў аналізу ўжо існуючых. Па сутнасці, менавіта архівісты на этапе камплектавання архіваў у значнай ступені фарміруюць тэматычныя і метадалагічныя накірункі гістарычных даследаванняў. Самі ж яны з'яўляюцца ў значнай ступені закладнікамі палітычнай, гаспадарчай і культурнай сітуацыі ў краіне.

Прыкладна так выглядае сучасная сітуацыя ўзаемадачыненняў у сістэме архівісты–архівы–гісторыкі.

Цяпер можна перайсці да ўласна прапаноў, якія могуць змяніць сітуацыю. Яны базуюцца на комплексе сучаснай архівазнаўчай літаратуры і ў пэўнай ступені на ўласным досведзе[8].

Актуальная задача, выкананнем якой занятыя розумы архівістаў і рэалізацыя якой з'яўляецца вяршыняй мараў гісторыкаў, – гэта доступ да архіўных дакументаў анлайн. Ідэя глабальнай даступнасці архіваў часам палохае архівістаў, ставячы пад сумнеў неабходнасць самой прафесіі. Гаворка ж ідзе пра грунтоўны перагляд функцый архівіста. Вырашэнне дадзенай задачы адбываецца ў двух раўназначных кірунках: аблічбоўка аналагавых дакументаў, захоўванне электронных дакументаў і інфармацыйных рэсурсаў.

Фонд лічбавых копій архіўных дакументаў у беларускіх архівах да пачатку 2011 г. складаў менш за адну тысячную ад агульнай колькасці дакументаў, якія знаходзяцца на архіўным захоўванні. Асноўныя цяжкасці звязаныя з каардынацыяй дзеянняў па аблічбоўцы дакументаў, а таксама з наладжваннем сістэмы іх апісання і паўнавартаснага выкарыстання. Першы вопыт стварэння апісанняў ажыццяўляўся ў адпаведнасці з міжнародным стандартам архіўнага апісання ў рамках работы над праектам «Дакументальная спадчына Рэчы Паспалітай», а таксама анлайн-версіяй Фондавага каталога дзяржаўных архіваў Рэспублікі Беларусь (2012)[9]. Паўнатэкставыя версіі дакументаў беларускіх архіваў (у адрозненне ад польскіх[10]) знайсці анлайн не атрымаецца.

У 1998 г. быў створаны Беларускі навукова-даследчы цэнтр электроннай дакументацыі (БелНДЦЭД), у структуры якога дзейнічае архіў электронных дакументаў. Тут ажыццяўляецца сталае захоўванне электронных дакументаў, якія належаць да Нацыянальнага архіўнага фонду. Гэта быў першы спецыялізаваны архіў такога кшталту на постсавецкай прасторы. Кіраванне архівам забяспечвае аўтаматызаваная інфармацыйная сістэма, распрацаваны шэраг метадычных і нарматыўных актаў па захоўванні электронных дакументаў. Аднак аб іх поўнамаштабным прыёме ад дзяржаўных органаў і іншых арганізацый гаворка пакуль не ідзе. Праблема датычыць сферы паўнавартаснага ўвядзення электроннага дакументазвароту. Дзяржаўныя органы і арганізацыі плануюць ажыццявіць гэта да пачатку 2016 г.[11]

Існуе таксама патрэба ў электронных рэсурсах, таму актуальнымі з'яўляюцца і г. зв. «архівы інтэрнэту», якія аўтаматычна архівуюць сайты. Як правіла, гэта сайты пэўнай даменнай зоны (Данія) альбо сайты дзяржаўных органаў і дзяржаўных архіваў (Польшча) ці асобныя выпадковыя сайты (Беларусь). У кожным з гэтых выпадкаў актуальнай ёсць ацэнка значнасці інфармацыйнага рэсурсу і ўключэнне яго ў адзіную інфармацыйную сістэму на нацыянальным узроўні без уліку ведамаснай прыналежнасці. У Беларусі дзейнічае Інструкцыя па правядзенні экспертызы каштоўнасці і перадачы на дзяржаўнае захоўванне дакументаў у электронным выглядзе і інфармацыйных рэсурсаў (2010), якая патрабуе ад арганізацый выяўлення і абнаўлення інфармацыйных рэсурсаў, правядзення экспертызы каштоўнасці дакументаў і фарміравання ў неабходных выпадках архіўных копій. Але на практыцы гэта патрабаванне не рэалізуецца ў дачыненні да сеткавых публікацый.

Як захаваць, як захоўваць і як зрабіць даступнымі архіўныя дакументы – гэта пытанні, якія знаходзяцца на стадыі вырашэння. А вось праблема, што захоўваць, сёння застаецца на этапе тэарэтычнага асэнсавання. Пакуль істотных зменаў у палітыцы камплектавання архіваў не назіраецца.

У шматлікіх архівазнаўчых даследаваннях апошніх дзесяцігоддзяў архівы разглядаюцца з пункту гледжання катэгорыі памяці і антрапалагізаванага падыходу[12]. Яны выступаюць як інстытуцыі, якія мусяць задаволіць патрэбы памяці і здзейсніць суб'ектыўны выбар таго, што будзе забытае, а што захаванае. Пры гэтым патрабаванне захоўвання дакументаў, якія быццам бы "аб'ектыўна" адлюстроўваюць гістарычную рэальнасць, гучыць для сучаснага архівазнаўцы як нонсэнс. Праблема архіваў і захавання памяці разглядаецца ў шэрагу выпадкаў як механізм канструявання ідэнтычнасці (спачатку родавай, потым нацыянальнай і наднацыянальнай) (П'ер Нара, Вальдэмар Харанжычэўскі, Марына Чыркава ды інш.). А бесстаронні і "аб'ектыўны" архівіст

саступае архівісту, які працуе дзеля захавання памяці чалавека і для чалавека (Агнэшка Роса, Вольга Іванова).

Асноўныя рысы гэтага "новага" архівазнаўства (Войцэх Пясэк) можна сфармуляваць наступным чынам. Па-першае, гэта імкненне да міждысцыплінарнасці, то бок актыўнага дыялогу з сумежнымі галінамі ведаў, якія патрабуюць крыніц новага тыпу і раскрываюць заканамернасці іх з'яўлення. Архівазнаўства ў гэтым выпадку з'яўляецца не толькі дысцыплінай, што "дапамагае" захаваць крыніцы, але і прапануе навуковыя падыходы да іх стварэння, захавання, павышэння інфарматыўнасці, сістэматызацыі і нават інтэрпрэтацыі, у выпадках калі метадалогія даследаванняў, якія базуюцца на эгадакументах[13], знаходзіцца на стадыі фарміравання.

Па-другое, гэта змена свядомасці асноўных удзельнікаў архіватворчага працэсу, у першую чаргу стваральніка дакумента, а потым архівіста і карыстальніка інфармацыі[14]. Стваральнік дакумента мусіць быць упэўнены ў тым, што яго досвед і памяць вартыя захавання. Ён стварае крыніцу, якая фіксуе гэты досвед, і адказвае за яго захаванне і выкарыстанне, што можа адбывацца ў асабістым, сямейным, грамадскім ці дзяржаўным архіве.

Для архівіста няма памяці, нявартай захавання. Ён мусіць забяспечыць сувязь паміж стваральнікам і карыстальнікам, поўную адкрытасць да першага і другога, вырашаючы задачу захавання дакументаў на розных носьбітах, павышэння інфарматыўнасці крыніц з дапамогай стварэння навукова-даведачнага апарату, пошуку і ратавання крыніц ды інш. Карыстальнік (гісторык) у гэтай сітуацыі зыходзіць з таго, што гісторыя грамадства складаецца з "гісторый" канкрэтных людзей, і валодае методыкай рэканструкцыі такой гісторыі. Гэты карыстальнік не чакае, пакуль архівы будуць створаныя кімсьці, каб трапіць у закладнікі ўжо створанай дакументальнай сістэмы, але актыўна ўдзельнічае ў працэсе адбору і захоўвання дакументаў.

Па-трэцяе, гэта змена архіватворчага працэсу. У яго канструяванні галоўную ролю адыгрываюць архівазнаўцы, гісторыкі і навукоўцы сумежных галін ведаў. Першая адметнасць заключаецца ў тым, што працэс дакументаўтварэння пачынаецца з асобы карыстальніка ці стваральніка[15], якія ўсведамляюць неабходнасць фіксацыі пэўнага досведу. У гэтым кантэксце не існуе крытэрыяў каштоўнасці дакументаў у традыцыйным разуменні. Асноўны крытэрый – гэта рашэнне стваральніка аб неабходнасці захаваць сваю задакументаваную памяць. Задача архівазнаўцы – распрацаваць сістэму архіўнага захоўвання, якая б цалкам адпавядала патрабаванням стваральніка, карыстальніка, а таксама грамадства. Тут ставіцца задача вывучэння практык стварэння, захавання і перадачы памяці з дапамогай архіўных дакументаў, як пісьмовых, так і вусных.

Па-чацвёртае, гэта шчыльнае ўзаемадзеянне і камунікацыя паміж архівістамі і стваральнікамі дакументаў, іх карыстальнікамі (гісторыкамі, навукоўцамі іншых галін ведаў) і грамадствам.

Некаторыя з пералічаных ідэй непазбежна сутыкнуцца (і ўжо сутыкаюцца) з пэўнымі праблемамі пры спробе іх рэалізацыі на практыцы. Напрыклад, тэзіс аб адсутнасці крытэрыяў экспертызы каштоўнасці дакументаў ставіць перад архівістамі складаную задачу, як захаваць "усё" і не ператварыць пры гэтым архіў у сметніцу, дзе немагчыма будзе знайсці патрэбную інфармацыю. Аднак ужо існуе досвед захавання дакументаў асабістага паходжання, досвед "Народнага архіва"[16] і архіваў вуснай гісторыі, дзе гэтая задача хоць і часткова, але рэалізуецца. Можна меркаваць, што развіццё тэхнічных сродкаў з цягам часу вырашыць не толькі праблему экспертызы каштоўнасці, але і праблему камплектавання, зрабіўшы такія архівы "самакамплектуючыміся", дзе кожны чалавек самастойна будзе пакідаць на захаванне дакументы, вартыя, на яго думку, увагі.

Пэўныя захады па рэалізацыі вышэйадзначаных ідэй робяцца ў Беларусі дастаткова даўно, прынамсі з канца 90-х гг. XX ст. Менавіта тады адбыўся ўсплёск цікавасці да пошуку інфармацыі, якая б спрыяла захаванню нацыянальнай памяці грамадства і фарміраванню нацыянальнай ідэнтычнасці (П'ер Нара). Гэты пошук актыўна вёўся ў былых сацыялістычных краінах і прывадзіў да стварэння г. зв. *архіваў нацыянальнай памяці*, ці грамадскіх архіваў[17].

Першая спроба ліквідаваць прабел у існуючых крыніцах была зроблена гуманітарным фондам «Наша ніва», у рамках якога быў створаны ў 1996 г. *Архіў найноўшай гісторыі*. Яго мэтай было «*асэнсаванне гісторыі Беларусі XX ст., пошук дэмакратычных каранёў незалежнага беларускага грамадства, актуалізацыя гэтай спадчыны*». Тут збіраліся дакументы палітычных партый, якія спынілі дзейнасць да 2000 г., шэрагу грамадскіх аб'яднанняў, калекцыя ўлётак, калекцыя ўспамінаў рэдактараў «самвыдату», дакументы аб рэпрэсаваных, асабістыя архівы дзеячаў беларускага нацыянальнага руху другой паловы XX ст. Сёння архіў мае анлайн-версію, даступную карыстальніку, то бок пісьмовыя дакументы аблічбаваныя і выстаўленыя на сайце разам з апісаннямі[18].

Новай з'явай для Беларусі стаў архіў вуснай гісторыі, які пачаў дзейнасць у 2011 г. Да гэтага захоўванне запісаў успамінаў ажыццяўлялася спарадычна, у дачыненні да найбольш значных савецкіх дзеячаў. Напрыклад, успаміны пра С. Прытыцкага, В. Харужую, запісаныя ў 1958–1959 гг., захоўваюцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (НАРБ).

Беларускі архіў вуснай гісторыі – гэта таксама грамадскі праект зацікаўленых гісторыкаў, архівістаў і спецыялістаў іншых напрамкаў, які дае магчымасць анлайн-доступу да больш чым тысячы вусных успамінаў. Архіў камплек-

туецца шляхам прыёму ўжо сфарміраваных гісторыкамі, журналістамі ці іншымі адмыслоўцамі калекцый, а таксама збору ўспамінаў супрацоўнікамі архіва падчас экспедыцый і адмысловых інтэрв'ю. Найбольш папулярнымі тэмамі ў сабраных успамінах з'яўляюцца сталінскія рэпрэсіі, гісторыя штодзённасці, лакальная гісторыя, этнаграфія, гісторыя эміграцыі, падзеі Другой сусветнай вайны, у тым ліку "ўз'яднанне" беларускіх земляў увосень 1939 г., голад у пасляваеннай БССР, калектывізацыя ў Заходняй Беларусі ды інш. Дакументы захоўваюцца ў трох копіях: на серверы (цёмная копія), на здымных дысках (архіўная копія) і на партале (карыстальніцкая копія). Для доступу да дакументаў карыстальнікі праходзяць працэдуру рэгістрацыі[19].

Акрамя гэтага, з 2012 г. рэалізуюцца праект па апісанні беларускіх некропаляў «Некропалі Беларусі. Гісторыя і асобы», у рамках якога фарміруецца база дадзеных гістарычных пахаванняў; «Праект 90-я», прысвечаны захаванню дакументаў, фотаздымкаў і ўспамінаў па гісторыі 1990-х гг. у Беларусі; Віртуальны музей савецкіх рэпрэсій, што збірае дакументы і ўспаміны рэпрэсаваных асобаў; архіў Гістарычнай майстэрні ў Менску, у якім захоўваюцца сведчанні ахвяр Халакосту ды інш.[20]

Усе гэтыя анлайн-сховішчы маюць дакладна акрэсленую тэматыку і адмысловую методыку працы з дакументамі. Віды дакументаў, што захоўваюцца тут, зыходзяць са спецыфікі іх электроннай формы. Гэта фотаздымкі, копіі тэкставых дакументаў, аўдыё- і відэаўспаміны, аўтарскія артыкулы і тэксты, архіўныя апісанні, базы дадзеных. Розніца заключаецца ў наяўнасці ці адсутнасці папяровага варыянту дакументаў. Сховішчы ствараліся ў межах пэўных грамадскіх ініцыятыў, удзельнікамі якіх сталі як гісторыкі, так і архівісты. Тым не менш акрэсленыя вышэй архівазнаўчыя падыходы выкарыстоўваюцца хутчэй інтуітыўна. З аднаго боку, гэта спрыяе захаванню інфармацыі з дапамогай сучасных тэхнічных сродкаў, а з другога – прыўносіць пэўную долю хаосу ў гэты працэс. Актуальным ізноў становіцца пытанне доўгатэрміновага захоўвання каштоўнай інфармацыі.

Наяўныя тэхнічныя навацыі адкрываюць шырокія магчымасці для захоўвання і выкарыстання інфармацыі. Архівы, якія камплектуюць, пераўтвараюцца ў архівы, што камплектуюцца самі сабой. Асноўным крытэрыем экспертызы каштоўнасці становіцца суб'ектывізм і разнастайнасць, г. зн. захоўваць можна любы дакумент. Апісанне дакументаў ажыццяўляецца з дапамогай карыстальнікаў фэйсбуку, а выкарыстанне становіцца магчымым пасля набору на клавіятуры ўсяго некалькіх сімвалаў.

Але ў рэчаіснасці справа падаецца больш складанай. Замова грамадства і навукоўцаў-гісторыкаў на захаванне крыніц рэалізуецца архівістамі праз рас-

працоўку архіўнай структуры і забеспячэнне доступу з улікам тэматыкі і відаў дакументаў, а таксама вырашэння пытання доўгатэрміновага захоўвання. Сама ж структура ствараецца праграмістамі, для якіх архівісты распрацоўваюць неабходнае тэхнічнае заданне. Выключэнне з гэтага ланцужка архівістаў, як правіла, прыводзіць да стварэння вузкаспецыялізаваных статычных рэсурсаў без магчымасцяў пошуку і выкарыстання інфармацыі па-за межамі адной задачы. Выключэнне гісторыкаў ці іншых карыстальнікаў (на этапе канструявання архіва) абарочваецца цяжкасцямі ў ацэнцы спосабаў выкарыстання сабранай інфармацыі, яе запатрабаванасці і методык аналізу.

Такім чынам, існуючыя і ўзнікаючыя сёння напрамкі грамадскай, гаспадарчай, інфармацыйнай ды іншай дзейнасці, праблемы памяці і нацыянальнай ідэнтычнасці патрабуюць фіксацыі (дакументавання) і захавання інфармацыі шляхам стварэння архіваў. Дзяржаўныя архівы не паспяваюць за гэтымі працэсамі, што стварае шэраг праблемаў для сучасных і будучых карыстальнікаў і фармуе вобраз "закрытасці" архіваў. З іншага боку, тэхнічныя магчымасці спрыяюць узнікненню грамадскіх інтэрнэт-рэсурсаў, інфармацыя з якіх можа паўнапраўна прэтэндаваць на ўключэнне ў склад НАФ. Працэсы архівастварэння будуюцца на самарэфлексіі (нават псіхатэрапіі) і ўзнікненні пэўнай грамадскай (гістарычнай) замовы "на архіў". Якраз таму перад сучаснымі архівістамі паўстае цэлы комплекс задач – пачынаючы ад неабходнасці свядомага праектавання электронных і анлайн-архіваў і заканчваючы распрацоўкай методык аналізу сучасных электронных дакументаў і рэсурсаў.

Магчыма, такі падыход падпадае пад іронію П'ера Нара аб імкненні сучаснай свядомасці да "бясконцай вытворчасці архіваў", аднак падаецца пэўным выйсцем і кірункам развіцця, прынамсі ў беларускай рэчаіснасці. Задача-максімум архівіста – не толькі стварыць архіў, але таксама зрабіць магчымым яго існаванне на працягу стагоддзяў. Задача гісторыка – удзел у стварэнні архіва, забеспячэнне архівісту зваротнай сувязі для распрацоўкі методык аналізу захаваных дакументаў.

## *Заўвагі*

1 Kopiński K. List do Umberta Eco (Czyli jak urządzić archiwum publiczne) //Archiwa – Kancelarie – Zbiory. 2010. № 1(3). S. 245–254; Eco U. Jak urządzić bibliotekę publiczną // Zapiski na pudełku od zapałek. Przeł. A. Szymanowski. Poznań, 1993.

2 Bialiauski A., Zacharkiewicz S., Prudnikow A. Heurystyczna rola archiwum w kręgu białoruskich historyków profesjonalistów // Toruńskie konfrontacje archiwalne. T. 4: Nowa archiwistyka – archiwa i archiwistyka w ponowoczesnym kontekście kulturowym. Toruń, 2014. S. 189–202.

3 Рассакрэчаныя архівы: Дакум. дзярж. арх. Рэспублікі Беларусь, якія пераведзены на адкрытае захоўванне: Даведнік. Выпуск 1 / Складальнікі В. А. Дабычына, В. І. Пташнікава. Мінск: БелНДЦДАС, 1993; Жумарь С. Рассекречивание документов в государственных архивах Беларуси: исторический аспект // Архівы і справаводства. 2007. № 1.

4 Параўнайце: Реєстр розсекречених архівних фондів України: Міжархівний довідник. Т. 2, кн. 1–3. Київ, 2006.

5 Да 1990 г. архівы КПБ таксама не ўваходзілі ў склад тады яшчэ Дзяржаўнага архіўнага фонду.

6 Адзін з пачынальнікаў архівазнаўства як навуковай дысцыпліны, французскі філосаф-пазітывіст і гісторык Шарль Ланглуа, вызначыў асноўныя функцыі архіваў як “арсеналу ўлады” і “лабараторыі гісторыі”. Нягледзячы на тое, што ў савецкі перыяд архівістамі дэкларавалася найбольшая значнасць архіва якраз як “лабараторыі гісторыі”, яны заставаліся амаль выключна ў межах дзяржаўнага механізму кіравання.

7 З 1938 па 1960 г. архіўная галіна знаходзілася ў падпарадкаванні органаў НКУС/МУС.

8 Хачу адзначыць, што існаванне шматлікіх архівазнаўчых тэорый і схільнасць сучасных архівазнаўцаў да інтэлектуальных практыкаванняў не з’яўляецца панацэяй. Стварэнне архіва – складаны, шматступенны і незваротны працэс, у выніку якога рэалізуюцца толькі некаторыя ідэі.

9 Архивы Беларуси [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://archives.gov.by/Radzivily/intro.html; http://fk.archives.gov.by. Дата доступу: 10.11.2014.

10 *“Шукай у архівах”* (http://szukajwarchiwach.pl) з’яўляецца праектам Нацыянальнага электроннага архіва Польшчы, які пачаў дзейнічаць у кастрычніку 2009 г. Асноўная мэта заключаецца ў прадастаўленні анлайн-апісанняў архіўных матэрыялаў з дзяржаўных і недзяржаўных (па жаданні) архіваў і іншых устаноў культуры. Асобныя архіўныя апісанні прадстаўлены разам са сканаванымі копіямі дакументаў, лік якіх няўхільна расце. На сённяшні дзень іх больш за 10 млн.

11 Носевич В. Информационные технологии в архивной службе Беларуси // Развитие информатизации и государственной системы научно-технической информации (РИНТИ-2012): доклады XI Международной конференции (Минск, 15 ноября 2012 г.). Минск: ОИПИ НАН Беларуси, 2012. С. 194–197; Носевич В. Как сберечь цифровое наследие // Архівы і справаводства. 2011. № 6 (78). С. 82–92.

12 Илизаров Б. Архивный документ в свете представлений о социальной памяти // Археографический ежегодник за 1985 год. М., 1987. С. 42–51; Chorążyczewski W. Archiwa i pamięć. Z dziejów polskich archiwów // Archiwa–Kancelarie–Zbiory. T. 1. Toruń, 2005. S. 13–27; Rosa A. Archiwa między historią i pamięcią. Antropologizowanie archiwistyki // Archiwa–Kancelarie–Zbiory. Toruń, 2008. S. 99–133; Wiśniewska M. Archiwum jako miejsce pamięci // Archiwa–Kancelarie–Zbiory. T. 4(6). Toruń, 2013. S. 137–147; Piasek W. Nowa archiwistyka – w stronę kulturowej teorii archiwum i archiwaliów // Toruńskie konfrontacje archiwalne. T. 4: Nowa archiwistyka – archiwa i archiwistyka w ponowoczesnym kontekście kulturowym. Toruń, 2014.S. 11–25; Іванова В.С. Кірункі антрапалагізавання архівазнаўства: досвед і перспектывы // Историческое наследие Беларуси: выявление, сохранение и изучение: материалы Меж-

дунар. науч. конф., посвящ. 90-летию Гос. арх. службы Респ. Беларусь, 85-летию Нац. архива Респ. Беларусь и 20-летию кафедры источниковедения БГУ (Минск, 17–18 мая 2012 г.): В 2 ч. Ч. 2. Минск, 2013. С. 210–219; Чиркова М. Ю. Государственные архивы как субъекты политики памяти // Документ. Архив. Информационное общество: Материалы I Международной научно-практической конференции. Москва, 26–27 сентября 2013 г. / сост.: Е. М. Бурова, А. Ю. Кололеева. М.: РГГУ, 2014. С. 48–57 ды інш.

[13] Эгадакумент – гэта дакумент, мэтай стварэння якога з'яўляецца свядомая ці несвядомая фіксацыя досведу (памяці) пэўнай асобы. Параўн.: "чалавечы дакумент" (Хубова Д. Н. Устная история и архивы: зарубежные концепции и опыт. Диссертация на соискание ученой степени кандидата исторических наук. 07.00.02. Отечественная история. М., 1992. С. 314).

[14] Гаворка ідзе пра шырокае кола навукоўцаў-гуманітарыяў, а таксама ўсіх, хто мае цікавасць да выкарыстання архіўнай інфармацыі.

[15] Менавіта ў такой паслядоўнасці. Напрыклад, значнасць успамінаў сведак часу як крыніцы для даследавання сёння лепш разумеюць гісторыкі (карыстальнікі), чым самыя сведкі. Гэта тлумачыцца амаль поўнай стратай культуры дакументавання індывідуальнай памяці, адсутнасцю ўсведамлення неабходнасці і значнасці гэтага працэсу.

[16] Цэнтр дакументацыі "Народны архіў" дзейнічаў у Маскве з 1988 па 2006 г., збіраючы дакументы асабістага паходжання грамадзян. Ён стаў практычнай рэалізацыяй ідэі савецкага і расійскага архівазнаўцы Б. Ілізарава аб праве кожнага чалавека захаваць аб сабе памяць у выглядзе дакументаў. Пасля спынення дзейнасці "Народнага архіва" сабраны комплекс дакументаў быў перададзены на захоўванне ў Расійскі дзяржаўны архіў найноўшай гісторыі.

[17] Супрацоўнікамі польскага цэнтра KARTA (Варшава) нават падрыхтаваны падручнік "Грамадская архівістыка", з перакладам і на беларускую мову. Рэжым доступу: http://archiwa.org/as_materialy.php?co=1. Дата доступу: 17. 05. 2015.

[18] Вытокі. Грамадскі вэб-архіў. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://vytoki.net. Дата доступу: 17. 05. 2015.

[19] Беларускі архіў вуснай гісторыі. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://nashapamiac.org. Дата доступу: 17.05.2015.

[20] Некропалі Беларусі. Гісторыя і асобы. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://niekropali.by; Праект 90-я [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: www.90s.by; Віртуальны музей савецкіх рэпрэсій ў Беларусі. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://represii.net; Архіў гістарычнай майстэрні ў Мінску. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://zeitzeugenarchiv.gwminsk.com/ru/archiv. Дата доступу: 17.05.2015.